


# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

№ 17 (98). 22 — 28 красавіка 1999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 20 тыс. руб.


ВЁСКА

## ЯК ПРАКАРМІЦЬ СЯБЕ

**Забяспечыць краіну прадуктамі харчавання і найперш хлебам — такую задачу кожную вясну ставіць прэзідэнт краіны перад працаўнікамі аграпрамысловага комплексу.**

Па статыстычных дадзеных, у сельгасвытворчасці занята 19% працаздольнага насельніцтва Беларусі, на той час як у краінах Еўрапейскай супольнасці — усяго 5,7%. І пры гэтым многія віды сельгаспрадуктаў наша краіна вымушана закупляць за мяжой. Не хапае сваіх цвёрдых гатункаў пшаніцы, прамысловага жыта, садавіны і агародніны — многае з чаго добра расце на нашых землях.

Сёлетні вясенні сеў пачалі 2490 калгасаў. Большая палова з іх, як сведчыць статыстыка 71,8%, з'яўляюцца стратнымі — фактычна банкрутамі. Але адзінае, што можа пагражаць такім гаспадаркам сёння — гэта змена кіраўніцтва. Працэдура банкруцтва стратным гаспадаркам не пагражае, бо сапраўдным гарантам існавання калгасна-саўгаснага ладу выступае прэзідэнт. Штогод пасяўная кампанія фінансуецца з бюджэту краіны пад будучы ўраджай. Толькі сёлета калгасам і саўгасам выдаткавана крэдытаў 11,5 трыльёна рублёў. А ўраджаю не хапае ні на свой хлеб, ні на тое, каб вярнуць крэдыты. Прычына зразумелая. Калгасна-саўгасная форма гаспадарання на зямлі — неэфектыўная. Але ж яна дае магчымасць прэзідэнту трымаць калгасна-саўгасны электарат у сваіх руках. А робіцца гэта з дапамогай новых фінансавых уліванняў у практычна мёртвыя гаспадаркі. Бо потым з кіраўніцтва аграрнапрамысловага комплексу можна будзе спытаць за страты з усёй "бацькаўскай" строгасцю. Маўляў, хай ведаюць людзі, хто вінаваты ў тым, што ў нас не хапае свайго хлеба.

А тым часам з кожнай пасяўной краіна спускаецца на новы віток інфляцыі. Па дадзеных Мінсельгаспрода, на сярэдзіну 1998 года запазычанасць гаспадарак у бюджэт краіны склала каля 20 трыльёнаў рублёў. Такім чынам каля 20% даходнай часткі мінулагодняга бюджэту пушчана на вецер. І можна толькі здагадвацца, колькі сродкаў вылецідь сёлета ў гэтую "чорную дзюрку".

Якая ж існуе альтэрнатыва калгасна-саўгаснаму ладу?

У Беларусі прыватызавана ўсяго 16% земляў. І на гэтых плошчах прыватныя гаспадары (фермеры, дачнікі, домаўладальнікі-гараджане) вырошчваюць на сёння 40% усёй сельгаспрадукцыі. Асобна па відах гэта выглядае так: 85% усёй бульбы, 55% малака, каля 50% мяса, 52% яек. Астатняе расце на тых 84% земляў, што належаць калектыўным гаспадаркам. Здаецца, лічбы яскрава сведчаць, дзе расце лепш. Але ў нас свая сістэма гаспадарання, свой "асобны шлях"...

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## ЕСЛИ БЫ Я БЫЛ ХОЗЯИНОМ...

В народе говорят, что весенний день год кормит. На небольшом участке поля колхоза "Дружба", который находится возле моторо-ремонтного завода, велись посевные работы. Трактор, завершив очередной круг, остановился.

— Вот незадача, — развел руками механизатор Владимир Колодко, — полетел ремень вентилятора, а запасного нет.

Вскоре на поле подъехал заведующий вторым производственным участком Петр Апанович. Узнав, в чем заминка, отправил на машине механизатора за ремнем в мастерские. А мы заговорили о жизни.

— Если бы я был хозяином и платил людям из своего кармана, — сказал Петр Апанович, — то они бы сейчас у меня не стояли. Тракторист бы имел два-три запасных ремня и все другие необходимые запчасти. Я бы не гонял по таким пустякам машину в мастерские. Вот вчера, например, полетел в сеялке цилиндр. Пока ездили искать, потеряли полтора часа драгоценного времени. Первыми в районе сев яровых мы никогда не начинали. Земля у нас хоть и хорошая, но влага в ней держится долго, особенно в низинах. Нам бы сейчас на участок три гусеничных трактора да прокультивировать "тяжелые" места, чтобы земля быстрее подсохла. Но где ж их взять? Из шести имеющихся в колхозе гусеничных тракторов — исправен только один. Техника изношена, запчастей не хватает. Со старья, что-то конструируем, лепим. Вот и приходится на отдельных полях вести выборочный сев. Потом придется возвращаться снова на это поле, — отметил Апанович.



*Тракторист Владимир Колодко*

Еще много о чем в тот день нам довелось поговорить на краю недосеянного поля: о низких зарплатах, о маленьких пенсиях, о дороговизне и неустроенности быта, о том, почему не остается на селе молодежь и долго ли еще будут существовать колхозы...

**Николай СУПРУН, фото автора**



НАВІНЫ

### Новы старшыня

**У калгасе "Горка", што ў Дзятлаўскім раёне, абраны новы старшыня.**

Ім стаў спадар Лянцэвіч, які да гэтага працаваў галоўным ветэрынарным урачом у калгасе "Чырвоны кастрычнік".

### Стаў палкоўнікам

**Званне палкоўніка прысвоена начальніку Дзятлаўскай міліцыі Анатолю Панкевічу.**

Чарговую зорку яму ў Дзятлава прывёз міністр унутраных спраў Беларусі Юрый Сівакоў.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Срок продлен

**Срок обращения именных приватизационных чеков «Имущество» в Беларуси может быть продлен до конца 2001 года.**

По информации Министерства по управлению государственным имуществом и приватизации, предложение об увеличении срока обращения ИПЧ «Имущество» находится сейчас на рассмотрении в Совете Министров республики. После, в соответствии с действующим законодательством, этот вопрос поступит в администрацию президента.

Окончательное решение о продлении сроков обращения ИПЧ «Имущество» может быть принято уже к концу мая нынешнего года.

**БелаПАН**

### Вярнулі жыццё

**У мінулым нумары газеты была надрукавана заметка "Трагедыя ў Хадзявічах", дзе паведамлялася, што ад атрыманага нажавога ранення ў шыю памёр 37-гадовы жыхар вёскі Хадзявічы Піліп Акулка.**

На той дзень інфармацыю пра гэта рэдакцыя атрымала ад дасведчаных асоб праваахоўных органаў. Аднак пасля выхаду нумара ў свет высветлілася, што Піліп Акулка ў цяжкім стане быў тэрмінова адпраўлены ў Гродзенскую абласную бальніцу. Там яму зрабілі складаную аперацыю і выратавалі жыццё.

У аўторак, 20 красавіка, карэспандэнт "ГС" звязаўся па тэлефоне з медыкамі ЛОР-аддзялення абласной бальніцы, дзе яму паведамілі, што стан здароўя Піліпа здавальняючы, але яго лячэнне будзе працяглым і складаным.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### "Газета Слонімская" у Інтэрнэце

**З мінулага нумара нашу газету можна знайсці ў Інтэрнэце.**

Цяпер у любым кутку планеты ёсць магчымасць чытаць свежы нумар "Газеты Слонімскай" праз сусветную камп'ютэрную сетку.

Наш адрас у Інтэрнэце: **HTTP://www.irex.minsk.by/gs**

### З'езд энтузіястаў

**У мінулую суботу ў Мінску ў Доме літаратараў прайшоў шосты з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.**

Рэгіянальныя арганізацыі накіравалі на форум трыста дэлегатаў. Сярод іх былі Янка Брыль, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Сямён Шарэцкі і іншыя вядомыя людзі Беларусі. Уладу прадстаўлялі міністр адукацыі Васіль Стражаў, старшыня камітэту па друку Міхаіл Падгайны, намеснік главы адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч.

Распачаў працу з'езда старшыня ТБМ Генадзь Бураўкін. З болем у сэрцы ён гаварыў пра гаротны стан дзяржаўнай мовы ў рэспубліцы, аб тым, як яна выцясняецца ўладамі з ужытку ў дзяржаўных установах, як катастрафічна скарачаюцца класы з беларускамоўным навучаннем.

Са справаздачай выступіў першы намеснік старшыні ТБМ Алег Трусаў. У прыватнасці, ён расказаў пра тое, як змагаецца кіраўніцтва ТБМ з цяперашнімі ўладамі за існаванне гэтай грамадскай непалітычнай арганізацыі. У сваю чаргу чыноўнікі ад улады сцвярджалі, што ў краіне не існуе ніякіх праблем з беларускай мовай.

З'езд абраў Выканаўчую раду, у склад якой увайшлі два прадстаўнікі Гарадзеншчыны: Алесь Пяткевіч і Станіслаў Суднік.

Старшынёй Таварыства абраны Алег Трусаў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ЗДАРЭННІ

### Сам сябе спаліў

**33-гадовы жыхар вёскі Аўдзеевічы Зэльвенскага раёна, знаходзячыся ў нецвярозым стане, пасварыўся са сваёй сужыцелькай.**

Пасля сваркі ён абліў сябе бензінам і падпаліў. Выратаваць яго не змаглі.

### З малатком на жонку

**52-гадовы жыхар Дзятлава падчас сваркі стукнуў жонку малатком.**

Жанчына з пераломам цемянной косці трапіла ў бальніцу, а з мужам цяпер разбіраецца міліцыя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Апошні аргумент

**Слонімцы С. і Ш. пасварыліся на вуліцы Карла Маркса.**

Паступова сварка перайшла ў бойку, падчас якой адзін з іх выхапіў нож і ударыў ім у жывот сябру. Медыкі выратавалі жыццё пацярпелага.

### Збіў і адабраў грошы

**Днямі каля слонімскага бара "Святлана" жыхар горада Б. напаў на прахожага Р.**

Ён збіў мужчыну, адабраў у яго 12,6 млн. рублёў і дакументы. Рабаўнік затрыманы.

### Міжэвіцкія "жартаўнікі"

**Недружалюбна сустрэлі ў Міжэвіцкім клубе траіх юнакоў з вёскі Мялькавічы, якія прыехалі ў мінулы выхадны на танцы.**

Мясцовыя юнакі адлупцавалі гасцей і адабралі ў іх аўтамабіль. Падчас вяжу па вёсках яны разбілі легкавушку, якую потым пакінулі каля клуба. Міліцыя ўстанавіла асобы "жартаўнікоў".

### Прычына пажару ўстанаўліваецца

**Днямі раптоўна загарэлася страха хлява, які належыць жыхару з вуліцы Анішчыка.**

Пажарныя патушылі агонь, але ад яго былі моцна пашкоджаны "Жыгулі" гаспадара.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Пачалі красці бульбу

**Без насення бульбы застаўся жыхар вёскі Маркавічы Дзятлаўскага раёна.**

У яму, дзе знаходзіліся клубні, залез злодзей. Ён забраў усю бульбу і знік.

### Дзяўчына хацела смерці

**23-гадовая жыхарка г. Баранавічы В. прыехала ў вёску Белалозы Дзятлаўскага раёна нібыта ў госці.**

А на самой справе дзеля таго, каб звесці рахунак з жыццём. Памерці ёй перашкодзілі людзі, якія выцягнулі дзяўчыну з пятлі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ВЁСКА

# ДЗВЕ СУСЕДКІ

**Вёскі Елка і Казловічы калгаса "Рассвет" Зэльвенскага раёна знаходзяцца побач. Знаёмства з першай мы пачалі з вуліц Леніна і Мічурына. Назвы для вуліц засталіся яшчэ з савецкіх часоў, хаця Ленін і Мічурын ніякага дачынення да Елкі не маюць.**

Некалькі гадоў назад тут праводзілі газапровод, пасля чаго засталася вуліца Леніна ў калдобінах і ямах. А ў канцы яе, паміж калгаснымі цяпліцамі і збожжаскладам, знаходзіцца вялікая гара смецця. Яна, быццам, злучае вёскі Елка і Казловічы.

Па вуліцы Мічурына мы накіраваліся да піларамы. Ледзьве праехалі праз шырокі роў, што знаходзіўся на гэтай вуліцы. Але піларама была зачынена, а каля старых пабудоў сядзелі рабочыя. З іх слоў стала вядома, што хлопцы чакаюць свайго начальніка, а што датычыць заробку, дык атрымліваюць яны ў месяц па 2-3 мільёны рублёў.

— Мы маглі б вам шмат чаго расказаць, але баімся старшыні калгаса Васіля Харуту, які пасля нашых слоў не дасць нам сотак і не пусціць у водпуск, — прызналіся рабочыя.

У Казловічах сярод прыгожых прыватных дамоў мы звярнулі ўвагу на запусцелую хату. Гэтай хатай ака-



*Мікалай КАРОЛЬ*

заўся сельскі клуб. Мы былі здзіўленыя, што на дзве вёскі, дзе больш 750 жыхароў, такі занядбалы клуб.

Загадчыца клуба Ганна Дубатоўка са слязамі на вачах сказала, што памяшканню неабходны капітальны рамонт, што клуб даўно не ацяпляецца.

— Я звярталася да старшыні калгаса Харуты, які сказаў, што калі яшчэ раз прыйдзеш наконт клуба, дык мы яго, наогул, зачынім, — расказвае Ганна Віктараўна. — А што датычыць мастацкай самадзейнасці, дык яна ў нас ёсць. Рэпетыцыі праводзім каля клуба і ў школе. Нядаўна адбыліся "Вячоркі" і "КВЗ".

У гэты дзень мы шмат гутарылі з жыхарамі вёсак-суседак. Яны вельмі добра гаварылі пра мясцовых фермераў, скардзіліся, што цяжка пажылым людзям дабірацца з Казловіч і Елкі ў Слонім і Зэльву.

Але лепш за ўсё нам спадабалася ў школе. Хаця і там праблем хапае. З вуснаў настаўнікаў мы даведаліся, што вучань 9 класа Елкаўскай школы Мікалай Кароль — выдатнік вучобы, на раённай алімпіядзе па нямецкай мове заняў першае месца...

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**



*Так выглядае вуліца Мічурына ў вёсцы Елка*



*Хлопцы з пілापамы калгаса "Рассвет"*

НАВІНЫ

## Подорожала связь

**В очередной раз в Беларуси подорожали услуги внутриреспубликанской и международной телефонной связи.**

Стоимость переговоров между абонентами Беларуси увеличилась на 19%: с 1.600 до 1.900 рублей за минуту общения между абонентами внутри одной области и с 3.200 до 3.800 рублей — между абонентами разных областей.

Связь со странами СНГ, Балтии и дальнего зарубежья подорожала на 25-30%. В частности, минута разговора с Украиной стоит теперь 71.250 рублей (ранее — 57.000), с европейской частью России — 78.750 (63.000), азиатской частью России — 93.750 (75.000), Молдовой — 90.000 (69.000), Литвой, Латвией и Эстонией — 96.000 (73.500), Арменией, Грузией и Киргизией — 132.000 (102.000), Азербайджаном, Казахстаном, Таджикистаном, Туркменией и Узбекистаном — 136.500 (105.000).

Минута общения с Польшей обойдется в 82.500 рублей (ранее — в 63.000), Чехией — в 102.000 (78.000), Германией и Францией — в 111.000 (85.500), Великобританией — в 136.500 (105.000).

**БелаПАН**

ПОЛИТИКА

## Чем позже пройдут президентские выборы, тем меньше ресурса доверия и поддержки останется у Александра Лукашенко

В 1999 году в Беларуси прошли выборы депутатов в местные органы представительной власти. Не за горами и очередные выборы президента Республики Беларусь, а также внеочередные парламентские выборы.

Какие признаки, пусть пока и неочевидные, позволяют высказывать последнее предположение? Дело в том, что проведение президентских выборов в положенный срок более выгодно сегодня официальной власти, чем оппозиции. Следует отметить, что с точки зрения технологии завоевания власти президент Республики Беларусь и его политконсультанты совершили не так уж много ошибок.

И, тем не менее, из их можно выделить только две крупные, чреватые издержками для прочности власти сегодня и на перспективу. Это отказ от немедленных постреферендумных парламентских выборов и конфликт вокруг посольских резиденций в Дроздах. Первые позволили бы официальным властям легитимизировать итоги ноябрьского референдума 1996 года, снять упреки со стороны либеральной демократии в незаконности квазипарламента, назначенного президентом.

Многочисленные нарушения международных актов и внутриреспубликанского законодательства, сопровождавшие вытеснение послов ряда государств из их резиденций в Дроздах, неизбежно должны были привести к почти полной международной изоляции страны.

Трудно рассчитывать, что и в третий раз президент и его советники наступят на те же грабли, то есть предпочтут бросить вызов почти всему внешнему миру. Ибо ни одна из стран «большой семерки», ни один из международных демократических институтов не признает руководителя государства, чья власть и легитимность не освящена авторитетом своевременного прохождения легальных процедур. Международного изгоя в этой ситуации не спасет и традиционный союзник в лице России. В условиях экономического и политического кризиса восточный сосед сам будет нуждаться во внешней финансовой помощи и постарается не подрывать и далее своего международного престижа демонстративной поддержкой конфликтного сателлита. Как представляется, не только для подтверждения собственной легитимности президент Беларуси решится на более ранние президентские выборы, чем в 2001 году, как это предусмотрено президентской Конституцией. Источники внутренней и, прежде всего, экономической прочности режима могут иссякнуть существенно раньше. А вместе подорванным может оказаться и то наивное, основанное на эмоциях и успехах официальной пропаганды доверие большинства сограждан, которое пока есть в активе власти. Чем позже пройдут президентские выборы, тем меньше останется ресурса доверия и электоральной поддержки.

**Ольга АБРАМОВА,**
**кандидат философских наук**

# СМЕЦЦЕ КАЛЯ МАГІЛ...

**20 красавіка ў Беларусі адзначалася Радаўніца або веснавыя Дзяды. У гэты дзень многія слонімцы наведалі магілы сваіх продкаў. Мы ж пабывалі на Ружанскіх могілках у Слоніме напярэдадні свята, дзе засталі некалькі чалавек, якія прыбіралі магілы сваіх блізкіх.**

Гэтыя могілкі — адныя з самых старажытных на Слонімшчыне. Некалькі гадоў назад з Польшчы прыязджала навуковая экспедыцыя, якая з дапамогай слонімцаў наводзіла тут парадак, апісвала помнікі, фатаграфавала. Па сабраных матэрыялах польскія навукоўцы павінны былі выдаць кнігу "Старажытныя могілкі ў Слоніме на Беларусі"... Мы ж пабачылі ў старым сектары Ружанскіх могілак жудасную карціну: зваленае смецце, якое ўжо нехта спрабаваў падпаліць, паламаныя крыжы, пабітыя помнікі...

Гэта зрабіла не стыхія і не час, а звычайныя грамадзяне. Напрыклад, яшчэ ў сакавіку мінулага года (у пятніцу, 13-га) невядомыя асобы скінулі з пастаментаў некалькі помнікаў на Ружанскіх могілках. Па гэтаму факту была ўзбуджана крымінальная справа. Відаць, што здзекі над помнікамі працягваюцца і да сённяшняга часу. І не толькі над старажытнымі. Як казалі нам людзі, якія прыбіралі адну з магіл, тут часта хтосьці ламае агароджу, паліць вогнішчы. Некаму падабаецца пасядзець на лаўцы каля магілы, распіваючы гарэлку...



Напэўна ўжо мала хто памятае, што ў пачатку Ружанскіх могілак (ад Зялёнай вуліцы), дзе пустуе тэрыторыя, раней існавалі пахаванні. Падчас нямецкай акупацыі 1941-44 гг. тут хавалі слонімцаў, якія служылі ў паліцыі, самааахове і загінулі ў баях. Магілы гэтыя былі зруйнаваны пасля вяртання савецкай улады, а ў апошнія гады на іх месцы адбываюцца новыя пахаванні.



Многія бачылі на Ружанскай вуліцы, насупраць могілак, прыступкі, якія вядуць наверх. Аказваецца, калісьці там стаяў дом састарэлых, які згарэў у час апошняй вайны. Цяпер ад яго засталося толькі некалькі валуноў. А яшчэ там ёсць тры магілы XIX стагоддзя (раней, магчыма, было больш). У адной пахаваны Леў Восіпавіч Ганчароўскі (памёр у 1882 г.), у другой — штабс-капітан артылерыі Мікалай Канстанцінавіч Таўсталес (памёр у 1862 г.). Побач — звалка смецця...

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 21 красавіка 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 1100

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

ВЁСКА *нашы людзі*

# ВОСЬМАЯ ВЯСНА МІХАІЛА МАКЕЯ



**Лепшым прадпрымальнікам мінулага года ў Беларусі ў намінацыі "Сялянска-фермерская гаспадарка" стаў Міхаіл Макей. Хаця ён і жыхар Слоніма, але яго гаспадарка "Верас" знаходзіцца ў вёсцы Казловічы Зэльвенскага раёна, дзе фермер нарадзіўся.**

У 1991 годзе Міхаіл Макей разам са сваімі аднавяскоўцамі Аляксандрам Пугачэнкам і Анатолем Навумчыкам узялі ў арэнду 50 гектараў зямлі. З таго часу і працуюць на ёй. Праўда, цяпер кожны па-асобку. У Міхаіла сёння 64 гектары, у Пугачэнкі — 25, а ў Навумчыка — 15. Больш вопытным і цярплівым аказаўся Міхаіл Макей...

— Сёння прадпрымальніку жывецца вельмі цяжка. Гадоў пяць-шэсць назад было лягчэй, не было такога падзення рубля, і дзяржава давала добрыя крэдыты, — гаворыць прадпрымальнік.

Мы паехалі разам з Міхаілам Францавічам паглядзець яго зямлю. Яна знаходзіцца на мяжы двух раёнаў — Зэльвенскага і Слонімскага. Тут поўным ходам кіпіць работа. Будуюцца прыгожы офіс, гаражы для сельскагаспадарчай тэхнікі, новыя цяпліцы, а побач экскаватар капае катлаван пад возера, дзе будзе разводзіцца рыба. Усе палі былі падрыхтаваны да пасяўной. Менавіта на вытворчасці сельгаспрадукцыі спецыялізуецца прадпрыемства "Верас".

— Галоўная праблема — гэта арганіка. Сёлета дамовіліся і будзем яе купляць на Слонімскай птушкафабрыцы. А што будзе далей — пакажа час, — прызнаецца Міхаіл Францавіч.

Вельмі добра і шчыра пра фермера адклікаюцца жыхары тутэйшых вёсак. Асабліва настаўнікі Елкаўскай сярэдняй школы, якой шмат дапамагае гэты чалавек. Ды не толькі ім, але і сярэдняй школе №10 г.Слоніма, дзе вучацца дзеці Міхаіла. Сям'я прадпрымальніка жыве ў Слоніме, а жыццё праходзіць на ўласнай зямлі, якую трэба даглядаць і шанаваць. Працаваць Міхаіл Макей умее, галоўнае, каб яму не перашкаджалі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

# ФЕРМЕРАМ ДОБАВЯТ ЗЕМЛИ

Депутаты Палаты представителей Национального собрания Беларуси одобрили в первом чтении изменения и дополнения в Закон Республики Беларусь «О крестьянском (фермерском) хозяйстве».

Согласно внесенным поправкам, максимальные размеры земельных участков, которые могут предоставляться в пользование фермерским хозяйствам, увеличиваются с 50 до 100 гектаров. При этом в законопроект внесена норма, обязующая местные исполнительные власти выделять фермерским хозяйствам земли, не требующие капитальных затрат на повышение их плодородия. Данная норма призвана прекратить сложившуюся практику предоставления фермерам наименее плодородных земельных участков. Если же во владение фермерских хозяйств будут переданы земли, имеющие кадастровую оценку ниже средней, то, согласно законопроекту, местным властям дается право предоставления им льгот по платежам за землю.

Кроме того, ныне действующий закон дополнен рядом норм, расширяющих возможности получения фермерами банковских кредитов. Так, в частности, законопроект предусматривает возможность использования в качестве обеспечения залога имущества фермерского хозяйства, включая урожай сельскохозяйственных культур. Кроме того, закон дополнен статьей 3, устанавливающей обязательную регистрацию в местных исполнительных органах устава фермерского хозяйства, в котором должен быть указан глава хозяйства, его местонахождение, наименование, цель и виды деятельности, порядок создания его имущества и условия распоряжения им, а также порядок распределения прибыли и прекращения деятельности хозяйства.

По данным Минсельхозпрода, в настоящее время на территории Беларуси действует 2.785 крестьянских хозяйств. В их владении находится 68 тысяч гектаров земли, из которых 50 тысяч относятся к категории пахотных.

**БелаПАН**

# "ВЕККЕР-ХИМПАС" НАЧИНАЕТ ЖИТЬ


*Петр Салита*

**В Слониме начало действовать первое совместное белорусско-эстонское предприятие по выпуску химической продукции "Веккер-Химпас". О путях становления, сложностях и проблемах, с которыми пришлось встретиться его создателям, корреспонденту "ГС" рассказывает генеральный директор"Веккер-Химпас" Пётр Салита.**

***— Пётр Андреевич, с чего всё начиналось?***

— Идея создания предприятия по выпуску химической продукции у меня зародилась давно. Как и в любом деле, присутствовал элемент случайности. По рекламному объявлению я созвонился с эстонской фирмой "Веккер". Затем в ходе встречи предложил создать в нашем городе совместное предприятие по выпуску химической продукции. Хотя, откровенно говоря, непростое это дело — найти зарубежного инвестора. Нестабильность в Беларуси пугает зарубежных предпринимателей вкладывать деньги в нашу экономику. Для того, чтобы убедить эстонцев в целесообразности создания такого предприятия, пришлось привести немало аргументов и фактов.

***— Чем же Вы смогли убедить своих будущих компаньонов?***

— По образованию я инженер-химик, много лет проработал в этой отрасли. Когда эстонские специалисты приехали в Слоним, то я сумел доказать, что смогу наладить и запустить производство. В сентябре прошлого года были подготовлены и сданы документы на регистрацию предприятия. И надо же было такому случиться — на то время была запрещена регистрация предприятия подобного производства. Затем последовала вторая неудача — регистрацией совместных с зарубежными фирмами предприятий стало заниматься не министерство экономики, а министерство иностранных дел. Проблемы следовали одна за другой, а проконсультироваться было не у кого, так как в районе не было еще совместных предприятий. Шло время, а дело не двигалось вперед. Но мы настойчиво искали выход из создавшегося положения. И, в конце концов, нашли и получили свидетельство о регистрации предприятия.

***— Одно дело зарегистрировать предприятие, но совсем другое — создать его?***

— Следующим этапом нашей работы было объединение совместных усилий с фирмой "Орбита", которая стала нашим компаньоном и предоставила помещение для установки и монтажа оборудования.

Сначала взяли кредит в "Приорбанке", закупили оборудование, что тоже было весьма непростым делом. В настоящее время смонтировано два реактора по смешению компонентов химической продукции, а через несколько месяцев планируем смонтировать еще четыре подобных реактора. Наш партнер, фирма "Веккер" оплатила пять тысяч долларов за упаковочный автомат. Это позволит нам выпускать товары бытовой химии в различной упаковке: банках, бутылках, пакетах.

***— Значит, в Слониме вы уже скоро начнете выпускать химическую продукцию?***

— Да, на днях приедут партнеры из Эстонии, и мы совместно проведем испытание оборудования. Решено, что 51% прибыли будут получать эстонцы и 49% — мы. Считаю, что это приемлемые условия. Следующим этапом работы будет аттестация нашей продукции.

***— Это тоже представляет определенную сложность?***

— Аттестация продукции — сложное дело. Те, кто соприкасался с этим, знают, что в Госстандарте вам могут сообщить, что нет фондов стандартов(?!). Хочешь не хочешь — вынужден будешь идти на поклон к руководителю предприятия, которое выпускает подобную продукцию и у него покупать стандарт. Создать же новый стандарт потребует много сил и времени. Кроме этого, возникают большие проблемы с конвертацией валюты и закупкой химикатов за границей. Право покупать валюту по курсу Нацбанка предоставлено только государственным предприятиям. А нам, частным предпринимателям, приходится покупать ее по коммерческому курсу, который почти в два раза выше.

***— Что, на ваш взгляд, может и должно сделать государство для развития предпринимательства в республике?***

— Нужно решить вопрос с валютными кредитами. Вместе с тем, предпринимателю должно быть предоставлено право распоряжаться валютой по своему усмотрению.

***— Будет ли реализовываться ваша продукция в магазинах нашего города?***

— Да, конечно. Через некоторое время на прилавках магазинов появятся товары народного потребления с эмблемой нашего предприятия "Веккер-Химпас". В основном, это будут товары бытовой химии.

***— Сколько человек будет работать на вашем предприятии?***

— Пока планируем 20 человек. При расширении производства количество рабочих мест увеличится.

**Валентин ЧУРИЛО**

НА ПРИЕМЕ У ЮРИСТА

## Как списывать бензин?

**Как учитываются расходы предпринимателя, связанные с эксплуатацией автомобиля в коммерческих целях (транспортные услуги не оказываются), какие документы требуются для их подтверждения; как учитываются амортизационные отчисления?**

Состав расходов, связанных с извлечением доходов от предпринимательской деятельности, осуществляемой гражданами без образования юридического лица, а также расходов, учитываемых налоговыми органами при исчислении сумм авторских вознаграждений, утвержден постановлением Кабинета Министров РБ от 26. 07. 96 г. № 491. Данным перечнем, в частности, предусмотрено, что в состав расходов включаются амортизационные отчисления на полное восстановление используемых для осуществления предприниматель-ской деятельности основных фондов и расходы на их текущий ремонт, а также топливо и энергия всех видов.

Амортизация начисляется в соответствии с Положением о порядке начисления амортизации (износа) на полное восстановление по основным фондам в народном хозяйстве, утвержденным Госкомитетом РБ по экономике и планированию.

Если предприниматель использует для осуществления своей деятельности транспортное средство (автомобиль), то он обязан обеспечить учет как общего пробега транспорта, так и пробега, связанного с осуществлением предпринимательской деятельности. При исчислении суммы амортизационных отчислений применяется поправочный коэффициент пропорционально пробегу автомобиля при осуществлении предпринимательской деятельности.

Аналогично учитываются затраты на текущий ремонт. При этом следует помнить, что текущий ремонт включает устранение незначительных повреждений путем частичной замены деталей, мелкой починки отдельных частей, не влекущих за собой замену узлов и разборку объекта, кроме случаев, когда нормативный срок узла меньше нормативного срока службы объекта, и ремонт производится в течение нормативного срока службы объекта.

Затраты на расход топлива определяются на основании путевых листов и документов, подтверждающих приобретение топлива, по действующим линейным нормам расхода топлива для автомобилей в соответствии со Сборником норм расхода топлива и смазочных материалов на автомобили и транспортную технику, утвержденным Минтрансом РБ 23. 10. 96 г. При отсутствии указанных норм, израсходаванные горюче-смазочные материалы не подлежат включению в расходы.

В соответствии со ст. 117 КзоТ РБ работники предприятий, учреждений и организаций, использующие свои транспортные средства, оборудование, инструменты и приспособления для нужд нанимателя, имеют право на получение за их износ (амортизацию) компенсации, размер и порядок выплаты которой определяются по договоренности с нанимателем. В облагаемый доход суммы компенсации не включаются в размерах амортизационных отчислений, а суммы превышения размеров амортизации подлежат обложению подоходным налогом по совокупности с заработком того месяца, в котором производится выплата компенсации.

## Тэрмін падачы скаргі мінуў

**Чатыры месяцы назад мяне перавялі працаваць слесарам у другі цэх, хоць я на гэта не згаджаўся. Па-першае, новая работа двухзменная, па-другое, стаў атрымліваць меншую зарплату. Прасіў кіраўніцтва фабрыкі, каб мяне зноў перавялі на былую працу, але дарэмна. Ці правільна ў даным выпадку паступіла адміністрацыя адносна мяне, і куды я магу паскардзіцца?**

**Анатоль К., Слонім**

Ваш выпадак непасрэдна рэгулюе арт. 25 Кодэкса законаў аб працы "Перавод на іншую работу. Перамяшчэнне. Змяненне істотных умоў працы". Мяркуючы па вашаму пісьму, у даным выпадку меў месца перавод, допушчальны толькі з вашай пісьмовай згоды. Вы паведамляеце, што такой згоды з вашага боку не было. А гэта азначае, што на іншую працу вас перавялі з парушэннем працоўнага заканадаўства.

У адпаведнасці з арт. 215 КЗАП, работнік можа абскардзіць дзеянні наймальніка і звярнуцца ў камісію па працоўных спрэчках, ці па ўстаноўленым парадку ў суд, у трохмесячны тэрмін з дня, калі чалавек даведаўся ці павінен быў даведацца аб парушэнні свайго права.

Тэрмін абскарджання дзеянняў кіраўніцтва прадпрыемства мінуў, таму вашу заяву не прымуць у судзе. Раю вам звярнуцца да старшыні прафкама, які растлумачыць адміністрацыі непраўамернасць вашага пераводу, і становішча, магчыма, зменіцца ў лепшы бок.

**Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

Газета Слонімская
22 — 28 красавіка 1999г., № 17 (98)

# ОТДУШИНА

***Когда ты молодая и счастливая, окружающие кажутся тебе такими же...***

Лена любила гостить в доме своей сослуживицы Анны Дмитриевны. Садилась в любимое кресло с куском ароматного пирога и мечтала выйти замуж, родить детей, иметь дом, в котором все будет как здесь — тепло и уютно. А главное, муж непременно будет похож на Виктора Алексеевича, такой же заботливый, внимательный, любящий. Настоящий мужчина в доме — опора, в компании — душа. А значит Анна Дмитриевна — самая счастливая женщина. За два года Лена не услышала в этом доме ни одного грубого слова.

В каждом знакомом парне Лена искала сходство с Виктором Алексеевичем, ждала принца из действительности-сказки. И дождалась.

Незадолго до свадьбы подруга уговорила Лену поехать с ней на шашлыки, последний раз одной и свободной. Будут замечательные мальчики, подружки и любимый. Давно она хотела познакомить с ним Лену. Все складывалось хорошо. Погода была замечательная... Речка, лес, солнце, костер... Лена ворошила в нем угли, когда подъехала машина, из нее вышел он... Сияющая от счастья подруга сказала: "Знакомьтесь, это Виктор!" В ответ Лена еле выдавила свое имя. На нее, улыбаясь, смотрел Виктор Алексеевич.

Лена поклялась себе никогда не вспоминать эту встречу. Анна Дмитриевна настойчиво приглашала зайти в гости с женихом. Не могла Лена отказать, она любила и уважала эту женщину, правда, самой счастливой ее уже не считала и жениха с собой не взяла. Знакомые окна стали чужими, запах пирога тревожил, любимое кресло было неудобным, все слова обычного разговора казались фальшивыми. Анна Дмитриевна ушла на кухню подогреть чай. Виктор Алексеевич уселся рядом с Леной, взял ее руку в свою и глядя в глаза сказал: "Мне жаль, что в начале своей семейной жизни ты увидела ее обратную сторону. Пойми, это помогает мне возвращаться домой в хорошем настроении, любить жену и детей, вести необходимый образ жизни... Твоей подруге я ничего не обещал, она знала, на что шла... Она моя отдушина... Время все поставит на свои места..." Лена выдернула свою руку. Руки Виктора Алексеевича жгли ей ладони, слова - душу...

Лена вышла замуж, у нее двое детей, своя квартира. Для нее не секрет, что у мужа есть своя отдушина, а у нее - своя... Время все поставило на свои места!?

Выслушав рассказ, я не удержалась и спросила:

— Вы не боитесь осуждения?

— Боюсь, но хочу понимания, как когда-то Виктор Алексеевич.

А Вы, читатели, осуждаете или понимаете? Давайте и поговорим об этом за чашечкой.

**Лариса ПЕТРОВА**

***Спасибо всем, кто позвонил или написал, всем, кто высказал свое мнение по поводу "НУЖНА ЛИ МУЖЧИНЕ УМНАЯ ЖЕНЩИНА?". Однозначного ответа на этот вопрос не нашлось. Судите сами:***

**— умному мужчине она нужна;**
**— только глупые женщины стараются быть умными для мужчин;**
**— да, нужна, но они (мужчины) никогда не признаются в этом;**
**— у "умниц" всегда будут проблемы;**
**— умная женщина не нужна никому, ни женщинам, ни мужчинам;**
**— мужчинам нужны только ноги, доказательство — стихотворение рядом с рассказом "Галина";**
**— мужчинам главное, чтобы их любили и желательно безумно;**
**— как бы мы не "умничали", всем нам необходимо быть любимыми.**

# ОТКРОВЕНИЕ

С Таней я познакомилась в дизеле Гродно-Барановичи. За те полтора часа, что мы провели вместе, я узнала о ее самом сокровенном, о чем она еще ни с кем не делилась. Она призналась, что исповедать свою тайну матери и мужу ей не позволяет совесть. С ее разрешения я написала этот материал.

Ей было 18, а ему — 26. Они познакомились у подруги на дне рождения. Весь вечер он не отходил от нее ни на шаг. Потом проводил домой. На следующий день он пришел с огромным букетом роз, после чего она стала встречаться с Алешей. Однажды она стала женщиной и забеременела. Это в ее планы не входило: впереди еще четыре курса университета, надежда найти хорошую работу. Более того, заявление о внебрачном ребенке привело бы ее мать к инфаркту. Алеша же, наоборот, очень хотел стать отцом.

Тем не менее, она решилась на аборт. Конечно, она понимала, что в будущем может остаться без детей. Хотя ей очень хотелось родить этого ребенка, проснулись материнские чувства. К тому же, гинеколог предупредила, что из-за узких бедер ей будут делать кесарево сечение.

"Как ни странно, я не боялась делать аборт, — сказала Татьяна. — Мне было абсолютно все равно, словно не мне сейчас будут делать эту унизительную операцию. Хотя еще накануне вечером я все думала и думала о том, что убиваю маленького родного мне человечка, как это ужасно, жестоко и гадко. Утром в палате я хотела только одного — скорей бы все это закончилось. Я не боялась, что мне будет больно, хотя чувствовала, как меня всю выворачивает на изнанку. От этого воспоминания я вздрагиваю до сих пор. Когда все закончилось, я поняла, что с убитым ребенком потеряла и часть себя, часть своей души. Я помню, как плакал Алеша, когда я вернулась в палату. Беззвучно, ссутулившись, глядя на меня печальными глазами. Он долго отговаривал меня, убеждал, требовал, даже угрожал, но я все равно сделал по-своему, — с грустью отметила Танюша. — Мой ребенок часто снится мне, он тянет ко мне ручки, улыбается, гугукает. Я тоже тянусь к нему, пытаюсь взять его на руки, обнять. Утром просыпаюсь вся в слезах, а на душе больно-больно. После я жила только с одной мыслью — а вдруг я больше никогда не буду иметь детей? Это ужасно. Только одно радовало, что Алеша не оставил меня и всегда поддерживал,ы и успокаивал.

Через два года я вышла за него замуж, у нас появилась своя квартира. Я окончила университет, работаю преподавателем младших классов в Гродно. Через полтора года после замужества я снова забеременела и родила мальчика, очень здорового и красивого. Теперь мне 24 года, я мать и жена. Я счастлива, что все мои опасения не оправдались. Но до сегодняшнего дня просыпаюсь иногда в слезах, потому что не могу обнять ребенка, которого в 18 лет я лишила жизни, и который во сне тянет ко мне ручки".

**Исповедь записала Елена СИНЯК**




## НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# ВЯРТАННЕ СТРАЧАНАГА ШЧАСЦЯ

Міхаіл прачнуўся на досвітку. За акном толькі-толькі займалася чэрвеньская зара. У душы адразу заварушыўся нейкі непрыемны халадок, і Міхаіл успомніў прычыну: учора яго пазбавілі бацькоўскіх правоў. Не яго аднаго, і жонку таксама. Пакрыўджаны і заплаканы дванаццацігадовы Дзімка пайшоў начаваць да сябра. Праз некалькі дзён яго забралі ў школу-інтэрнат.

Заснуць больш не мог. Не давалі ўспаміны. І за што б не чаплялася памяць — усё было ў яго жыцці прыкрае і горкае, за выключэннем рэдкіх эпізодаў...

У маладым узросце памерла жонка, пакінуўшы яму двух маленькіх сыноў-блізнятак. Пакуль перагараў такую страту, пакуль жыццё зноў увайшло ў сваю каляіну — шмат вады сплыло. Наважыўся шукаць сабе другую жонку, а сынам — матулю. Спадабалася адна жанчына. Амаль равесніца. Некалькі гадоў жылі проста так, потым распісаліся. Нарадзіўся Дзімка.

Старэйшыя сыны неяк непрыкмет выраслі, пайшлі на свой хлеб. Дзіма быў сапраўдныай уцехай на старасці гадоў. Ды не доўга давялося радавацца. Неўзабаве Міхаіл заўважыў, што яго Тамара стала нераўнадушнай да чаркі. Радавалася ёй як найлепшай сяброўцы. Што грэх хаваць, Міхаіл і сам не супраць быў выпіць, але ў жанчын такую ганебную звычку строга асуджаў, ведаў: раз п'е маці, то няма парадку ў хаце. І хутка жыццё даказала неабвержанасць гэтай ісціны.

Мінула няшмат часу, і Тамара перастала цікавіцца ўсім, акрамя спіртнога. Яе не хвалявала, што Дзімка пачаў дрэнна вучыцца, што ў кватэры ні ў адным куце няма парадку, што часта бывае пусты халадзільнік. А неўзабаве яго дарагая палавіна, наогул, пачала знікаць з дому. Пойдзе і не вяртаецца па некалькі дзён.

Неўладкаванасць быту і сваю адзіноту Міхаіл таксама пачаў заліваць спіртным. На рабоце яго ўшчувалі, папракалі, а потым прапанавалі звальняцца па ўласнаму жаданню. Ён звальняўся. Шукаў іншае месца.

Суседзі ў адзін голас казалі пра сям'ю Ганчарукоў: ён — п'яніца, яна — хранічны алкаголік. Добрыя людзі непакоіліся за іх, стараліся дапамагчы, папракалі за раўнадушша не толькі да свайго ўласнага лёсу, але і да лёсу сына, які гатовы быў ступіць на шлях злачыннасці.

Ганчарукі на ўсе заўвагі казалі, што п'юць калі-нікалі, што выхаваннем сына займаюцца не горш за іншых бацькоў і будуць вельмі ўдзячныя, калі іх, нарэшце, пакінуць у спакоі.

Але знайшліся людзі, якіх лёс Дзімкі цікавіў куды больш, чым тату з мамай.

Паведамленне аб тым, што іх пазбавілі бацькоўскіх правоў, сустрэлі спакойна. Падумаеш, ні яны першыя, ні яны апошнія. Цяпер вунь колькі дзяцей маюць сіроцкую долю пры жывых бацьках. І іхні выгадуецца. Але прачнуўшыся раніцай і адчуўшы, што ён пазбаўлены не толькі бацькоўскіх правоў, але і любові свайго сына, яго даверу і шчырасці, Міхаілу стала страшна. Ведаў, што цяпер і старэйшыя сыны ад яго адвернуцца. Колькі разоў угаворвалі, прасілі, каб кінуў піць. Калі ўжо Дзімку суджана расці сіратой пры жывой маме, то няхай хоць тата ў яго будзе як ва ўсіх дзяцей. Не паслухаўся... І цяпер паплаціцца ўдвайне.

Калі быць шчырым, то Міхаіл вельмі шкадаваў Тамару. Ведаў, каб яна перастала піць, то перастаў бы і сам. Сварыўся на жонку, біў яе, а потым, дзеля прымірэння, напіваліся абое. П'яныя цягаліся па горадзе. Іх штрафавалі, забіралі ў міліцыю, а потым адпускалі, маўляў, прапашчыя людзі.

Аднойчы Міхаіл выпіў і паехаў да сына ў школу-інтэрнат. Ён вельмі сумаваў па Дзімку. Хацелася ўбачыць яго мілую ўсмешку, пагладзіць па галоўцы. Але яго да сына не пусцілі. Таму што п'яны. Няма чаго псаваць хлопчыку настрой.

Менавіта тады ў душы Міхаіла нешта перавярнулася.

— Правільна кажуць старэйшыя сыны, што памяняў Дзімку на пляшку. Правільна, — круцілася ў п'янай галаве.

Назаўтра ён вельмі пакутаваў, але пахмяляцца не пайшоў. Паслязаўтра стала лягчэй. А яшчэ праз два дні ўдалося ўладкавацца на работу. Гэта так акрылілa Міхаіла, што ён пазычыў у суседкі грошай, набраў розных прысмакаў і паехаў да Дзімкі зноў. На гэты раз яго пусцілі. І не сніў, і не думаў, што сынок так абрадуецца яму — цвярозаму, чыста паголенаму, акуратна апранутаму. Дзімка бачыў, з якой зайздрасцю пазіраюць на яго тату дзеці, як ім хацелася адчуць на сваіх галоўках яго цёплую ласкавую руку. Але гэта быў яго тата, гэта яму выпала такое вялікае шчасце сустрэчы з родным чалавекам.

Мінаў час. Усе заўважылі, што Міхаіл Ганчарук не п'е. Яго знялі з уліку ў наркалагічным дыспансеры. На рабоце хвалілі. І тады ён вырашыў развесціся з жонкай, якая так і не знайшла ў сабе сілы, каб вылезці з алкагольнага балота. Развесціся дзеля таго, каб вярнуць сабе Дзімку, бо ў кватэру, дзе жыве маці-алкагалічка, ён дзіця прыводзіць не хацеў. На дзіва, Тамара з разуменнем паставілася да яго задумы. Яна нават выпісалася з кватэры і паехала жыць у вёску да маці.

І вось адбыўся суд, на які, акрамя бацькі, прыйшлі двое яго дарослых сыноў. Яны вельмі хацелі, каб малодшы брацік вярнуўся дамоў.

Суд вырашыў: узнавіць Міхаіла Ганчарука ў бацькоўскіх правах і перадаць яму на выхаванне Дзімку. З дзіцячай усмешкай, з вясковым сонейкам у сям'ю Ганчаруkoў вярнулася шчасце.

— Аднаўленне ў бацькоўскіх правах — вельмі рэдкі выпадак. Я больш трыццаці гадоў працую ў судзе і за гэты час толькі двойчы бацькам вярнулі дзетак. А так усё забіраем, забіраем, бо самыя родныя людзі ствараюць ім невыносныя ўмовы для жыцця, — сказала сакратар судовых пасяджэнняў.

Я не называю сапраўдных імён і прозвішчаў герояў артыкула. Не хачу сурочыць вернутае шчасце, якое, здавалася, было страчана назусёды. Але, як кажуць, Бог не без літасці...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ, Дзятлава**

## Маленькие хитрости

- Запах будет значительно острее, если наносить духи не пальцем, а крышечкой от флакона.
- Чтобы сохранить аромат подольше — нанесите несколько капель парфюма сразу после мытья на влажные волосы.
- Не стоит смешивать запахи. Если вы пользуетесь парфюмерией, то лак для волос и дезодорант-антиперспирант лучше покупать без запаха.
- Никогда не наносите духи в области подмышек. Во-первых, это может вызвать раздражение, во-вторых, смешавшись с потом, может появиться неприятнейший "букет".
- При нанесении духов, соблюдайте принцип треугольника — по капле за ушами, на ключицах и на декольте.
- Не стоит годами сохранять верность одному и тому же парфюму. Даже самые приятные ароматы надоедают не только вам, но и окружающим.
- Не выбрасывайте использованные флаконы. Запах в них может храниться долгие годы. Иногда для душевного равновесия очень полезно открыть старый флакон, вдохнуть чуть слышный аромат и предаться воспоминаниям.

ДА 200-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ А.С.ПУШКІНА

# СЛОНІМСКІ АЎТОГРАФ ПАЭТА

Працуючы ў Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці з матэрыяламі, што тычацца гісторыі мясцовай праваслаўнай епархіі, я зусім выпадкова напаткаў дакумент, у якім мелася згадка пра лісты Пушкіна. Гэтым дакументам аказаўся пералік аўтографаў, якія меліся ў Слонімскім гісторыка-краязнаўчым музеі, складзеныя на польскай мове заснавальнікам музея Іосіфам Стаброўскім у 1929 годзе. Пералік гэты насамрэч бясцэнны, бо ўтрымлівае ў сабе звесткі пра наяўнасць у тыя гады ў калекцыі выдатнага гісторыка, археолага і краязнаўцы больш за 50 аўтографаў: польскіх каралёў (Сігізмунда-Аўгуста, Сігізмунда III, Уладзіслава IV, Яна-Казіміра, Аўгуста II, Аўгуста III, Станіслава-Аўгуста Панятоўскага), вялікіх князёў (Караля Радзівіла, Яна Сапегі), Папы Рымскага Грыгорыя XV, шматлікіх каталіцкіх біскупаў, пісьменніцы Элізы Ажэшка, а таксама аўтографаў і лістоў, што належалі рускім імператарам (Мікалаю I, Аляксандру II), вядомым дзяржаўным і ваенным дзеячам (Грыгорыю Пацёмкіну, Грыгорыю Арлову, вялікаму князю Канстанціну, Барклаю-дэ-Толі, Аракчэеву, Міларадавічу, Растапчыну і інш.), літаратарам (Гаўрылу Дзяржавіну, Льву Талстому) і нарэшце... Аляксандру Сяргеевічу Пушкіну. Пад 29-ым нумарам пераліку меўся лаканічны запіс: "Лісты А.С-.Пушкіна і паведамленне пра смерць паэта з запрашэннем на развітальную паніхіду", і гэта пры тым, што змест лістоў іншых дзеячаў перадаваўся ў гэтым дакуменце кароткай анатацыяй. Тут жа не было болей ніводнага слова. Крыўдна, радасна, але і трывожна. Ці захавалася хаця б што-небудзь з гэтага пераліку, бо за 70 гадоў з моманту яго складання столькі сплыло вады, столькі адшумела войнаў і пажараў.

У той жа дзень я патэлефанаваў у Слонімскі краязнаўчы музей, спытаўся: ці захавалася што-небудзь у іх з рукапіснай калекцыі Іосіфа Стаброўскага. Адказалі, што мала, але штокольвечы ёсць. На той момант мяне так і падмывала спытацца пра Пушкіна, але боязь таго, што адмоўны адказ перарве маё радаснае прадчуванне сустрэчы з аўтографамі паэта, не дазволіла мне гэтага зрабіць. На наступны дзень раніцай выехаў у Слонім. Бліжка да абеду я быў ужо на месцы. Сустрэлі мяне ў музеі добра, і неўзабаве некалькі пакетаў з рукапісамі і аўтографамі знакамі- тай калекцыі ляжалі перада мной. З хваляваннем праглядаю паперы з радкамі ды аўтографамі Екацярынінскага фаварыта Пацёмкіна, героя Айчыннай вайны генералаў Барклая-дэ-Толі, Міларадавіча, графа Растапчына (усё гэта, дарэчы, варта асобнага аповеда). А вось і Пушкін! Хутка распячатваю канверт з тоўстай паперы і дастаю ліст паэта. Размашыстыя пушкінскія радкі на абодвух баках старадаўняй, цудоўнай якасці паперы з вадзянымі знакамі спачатку сталі разбягацца перад вачыма, але паступова іх сэнс рабіўся даступным. Чыталася: "Милостивая Государыня Александра Осиповна, крайне жалко, что мне невозможно будет сегодня явиться на Ваше приглашение. Покамест честь имею препроводить к Вам Barry Cornwall – Вы найдете в конце книги пьесы, отмеченные Карамзиным, переведите их как умеете – уверяю Вас, что переведете их как нельзя лучше. Сегодня я нечаянно открыл Вашу "Историю в рассказах" и поневоле зачитался. Вот как надобно писать! С глубочайшим почтением и совершенной преданностью имею быть, Милостивая Государыня, Вашим покорным слугой. А.Пушкин. 27 января 1837".



Прачытаў і перачытаў ліст яшчэ раз. Перада мной быў апошні ў жыцці паэта ліст, адрасаваны вядомай дзіцячай пісьменніцы А.Шымавай (1804-1881), напісаны за некалькі гадзін да трагічнай дуэлі. Ліст вядомы, публікаваўся ў 10-м томе збору твораў А.С.Пушкіна. Але як ён трапіў да Стаброўскага, а затым у музей? Сапраўды ён, ці гэта ўмелая копія? Пытаюся пра гэта ў Ірыны Рыгораўны Шпырковай, шматгадовага дырэктара музея. Яе адказ ("ліст гэты глядзелі спецыялісты, кажуць, што копія") мяне, вядома, засмуціў, але не настолькі, каб згубіць да яго цікавасць. Прыглядзеўшыся, убачыў побач са штампам музея і ўліковай сігнатурай перакрэсленую крыж накрыж дату "1857", а ўнізе надпіс: "Лит.Безе и Францен". Няма сумнення, што гэта копія, але затое якая – яе ўзрост 134 гады! Гэта значыць, што яна ўбачыла свет праз 20 гадоў пасля гібелі паэта і, мяркуючы па ўсяму, з'явілася ў знак памяці аб гэтай сумнай даце.

**Валерый ЧАРАПІЦА, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта**

## Весна

Пришла весна, земля проснулась
В объятьях света и тепла.
Всем телом к солнцу потянулась,
Похорошела, зацвела.
Вот вдоль дороги лентой длинной
Ручей разбуженный течет...
А на пригорках и равнинах
Опять мать-мачеха цветет.
Иду туда, где воздух пьянит:
В лес, очарованный весной.
На полюбившейся поляне
Найду подснежник голубой.
Но я цветов губить не буду,
Лишь нежно трону их рукой.
Пускай они цветут повсюду,
Мир наполняя красотой.

**Лидия САПРЫКИНА**

## Дзе?

Тут няма цішыні,
хоць бывае і пуста, і глуха.
Тут віжуюць віжы,
тут разруха.
Тут ні волі няма,
ні свабоды.
Тут паўгода зіма
й трыста год — для народа.
Тут бывае адліга, капеж
і — не болей.
Тут жывеш — не жывеш —
час няволіш.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

***

*Памяти Лоры Зосимович*

Тает звездная ночь. И как диво
Загорается тихий рассвет.
Я не умерла. Я еще жива.
Различите вы мой силуэт
В очертании радуги звонкой,
В белой пене венчальных садов...
Снегирем красногрудым за гронкой
Алых ягод лечу. Меж цветов.
Серебрящихся в инее,
— Знайте! —
Легкокрылой волшебной весной
Я воспряну. Сорвите и дайте
Тот подснежник друзьям голубой!

**Клавдия ЩЕРБАКОВА**

ДЕБЮТ

## Стихи Елены Ржеусской



Место рождения: Земля, 20 век. Росла в счастливое время. Училась и учится жизни. Работает. Пишет стихи. Верит в светлые чувства. Надеется на лучшее. Ждет вашего признания. Желает всем добра и мира! Дебют посвящает своим родителям.

***

Зимний лес искрится тишиной,
Хлопая в зеленые ладоши,
Опьяняя воздухом прохожих
И пленяя сказкою лесной.
Тонким льдом покрытая вода
Тянется под белой пеленою,
Ели стали крепостной стеною,
Но влюбленным это не беда.
Ниточкой едва заметно-тонкой
В романтично-ледяном плену
Вьется тропочка заманчиво и томно,
Открывая дивную страну.

### Капель

Хрустальный звон
Со всех сторон —
Капель играет перезвон.
Ликует разноцветье радуг.
В прозрачном воздухе зимы
Летят вниз капельки воды.
Рукой ты тронь звенящую струну,
Лицо подставь потоку света,
Представь прекрасную страну,
Где много музыки и цвета.
Ты вновь почувствуешь весну,
Среди зимы — предвестье лета.
— Люблю, — поет душа. — Люблю
Капель весеннюю за это.

***

...зь гісторыі гаротнай, без прыўкрас,
пад бомбамі бясоўскае свабоды
ўзыходзяць на Галгофу — ў Сконны час,
павольна — Праваслаўныя народы...
...антыхрыст рай зямны падрыхтаваў:
натоўпу кінуў хлеба і відовішч...
і ў прадоннях сваіх тайных сховішч
намеры запаветныя схаваў...
...напагатове каты і цвікі...
Хрыстос Сваіх наследнікаў чакае...
І — як дарожка церпнікам да Раю —
рассыпаны ў нябёсах в а с і л ь к і...

**ЗЬНІЧ**

ГУМАРЭСКА

# БРЫЛЬЯНТАВАЯ НАГА

Калгасны слесар Міхась Рупік прачнуўся раненька не для таго, каб узяцца за якую работу: пасля ўчарашняга моцна балела галава. Было такое адчуванне, нібы замест яе на плечы хто ўздзябурыў стары рассохлы цэбар, у якім вось-вось разваляцца ўсе клёпкі. Напружыўшы мазгі, Міхась стаў падлічваць, колькі і чаго ўчора было выпіта. Гнілая вяроўка памяці абрывалася пасля падзей ранняга вечара, калі яны з Толікам Бураўчыкам паслізнуліся ля магазіна і ўпалі ў вялікую лужыну. Усё. Больш інфармацыі памяць не выдавала.

У вокнах шарэла. Міхась глянуў на суседні ложак, дзе звычайна спала жонка Зінка. Яе там не было. Значыць, упраўляецца па гаспадарцы.

Ён скінуў з сябе коўдру, каб устаць, і раптам зноў каменем пляснуўся на падушку: правая нага была тоўстая і белая. Няйначай у гіпсе. Міхась пакрыўся халодным потам: акалечыўся п'яны! І да магазіна не дапаўзеш, каб пахмяліцца, і бальнічнага не заплацяць, і Зінка загрызе.

Ён паляжаў і асцярожна паварушыў пальцамі. Не балела. Тады набраўся смеласці і паварушыў усёй нагой. Таксама нічога.

— Дзіва дый годзе, — прабубніў сабе пад нос. — Адкуль тут узялася гэта брыльянтавая нага? Паслізнуўся. Упаў. Страціў прытомнасць. Ачомаўся — гіпс. Гэта пра брыльянтавую руку. А ў мяне — нага.

Перамагаючы галаўны боль, Міхась вырашыў: нічога не зробіш, буду хварэць. Раз гіпс — значыць справа сур'ёзная. Хоць бы Зінка прыйшла, можа яна што растлумачыла б.

У кухні бразнулі вёдры. Ды так, нібы іх скінулі са столі. У Міхасёвай галаве зазвінела, быццам яе таксама адтуль скінулі. Гэты грукат нічога добрага яму не абяцаў, але ён вырашыў мужна трымацца да канца.

— Зіна! — саслабелым голасам хворага чалавека паклікаў жонку Міхась. — Зайдзі сюды, калі ласка.

— А-а-а, — зларадна данеслася з кухні. Прачнуўся ўжо, каб ты лёг ды не ўстаў, алкаш няшчасны? Зайду зараз, а як жа. Толькі вось чапялу знайду з даўжэйшым канцом.

— Якую чапялу, зануда?! Я хворы! У мяне гіпс, каб ты ведала. І галава баліць. На яе таксама хоць гіпс накладвай. Разваліцца можа, — змагаўся за справядлівасць Міхась.

— Не разваліцца, пакуль я яе чапялой не разаб'ю. З такімі як ты нічога не робіцца.

— А з нагой жа вось, бачыш, нешта зрабілася. У гіпсе ляжу. А замест таго, каб паспачуваць, за чапялу хапаешся. Сама ты чапяла! — Міхась яўна рызыкаваў, гаворачы такія словы, але яго вельмі абурала жончына чэрствасць.

— Што? Гіпс?! — Зінка з'явілася ў дзвярных праёме. Праўда, без чапялы. Відаць, не знайшла. — Учора вечарам п'яны, як балота, дамоў прыцягнуўся. Сам бы можа і не дапоўз, Толік Бураўчык прывалок. Той трохі цвярэзейшы быў. Прывалок і кінуў у сенях, як мяшок з анучамі. А я сюды сама поцегам цягнула. Распранула, хацела разбуць. То адзін бот неяк сцягнула, а другі — хоць ты разразай было. Дык я, каб пасцель не вымазаў, абматала яго старой прасцінёй і ўзвалакла цябе, заваліну, на ложак. Так што ўставай ды шуруй на работу.

Міхась сцягнуў бот разам з прасцінёй і кінуўся да калодзежа мыцца. Душа яго спявала, хоць галава балела па-ранейшаму. Галоўнае, што ногі цэлыя. Яны і галаву вылечаць, толькі б да магазіна дабрацца!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**ФУТБОЛ**

# ПЕРШАЯ ПЕРАМОГА

***Тарпеда (Жодзіна) — Камунальнік (Слонім) — 1:3***

**Жодзіна. 18 красавіка. 2800 гледачоў.**
**"Камунальнік": Кіркіж, Купрыкаў, Дзегіль В. (Ягаўцоў, 85), Дзегіль А. (Раманаў, 89), Селіванаў, Пагоцкі, Дым, Савіцкі (Уладзімірскі, 60), Баль (к), Савань, Татарашвілі.**
**Галы ў слонімцаў забілі: Савань (21), Татарашвілі (23), Уладзімірскі (88).**
**На 33 мінуце "Тарпеда" рэалізавала пенальці.**
**Папярэджаны Сяргей Купрыкаў ("Камунальнік") і Вадзім Бразоўскі ("Тарпеда"), абодва — за грубую гульню.**

Перад стартавай гульнёй чэмпіянату па футболу ў першай лізе многія балельшчыкі "Камунальніка" хваляваліся, ці добра падрыхтавалася каманда да сёзона, ці паспела яна сыграцца? Адразу пяць навічкоў выйшлі на поле ў гэтым матчы...

Па словах галоўнага трэнера "Камунальніка" Аляксея Шубянка, гульня ў Жодзіна была роўная. Аднак слонімцам пашанцавала больш. У гэты дзень рэалізацыя момантаў у іх была лепшая, чым у жодзінцаў. Праўда, на пачатку гульні гаспадары поля паспрабавалі штурмаваць вароты "Камунальніка". Нападаючыя "Тарпеда" небяспечна білі галавой, але ўпэўнена згуляў Ігар Кіркіж, які некалькі разоў выратаваў нашу каманду, "выцягваючы" вельмі цяжкія мячы...

На працягу некалькіх мінут Яўген Савань і Георгій Татарашвілі забіваюць два галы – 2:0. Але яшчэ ў першым тайме жодзінцы скарацілі разрыў у ліку, дакладна рэалізаваўшы пенальці, прызначаны за знос Сяргеем Купрыкавым нападаючага гаспадароў у сваёй штрафной пляцоўцы.

Добра ўвайшоў у гульню Пётр Уладзімірскі, які выйшаў на замену ў другім тайме. Ён і паставіў пераможную кропку "Камунальніка" ў гэтай гульні – 3:1. Першая перамога, першыя тры ачкі.

Наступны матч слонімскі "Камунальнік" правядзе ў суботу, 24 красавіка, на сваім полі (пачатак у 16.00). Іх сапернікам будзе "Камунальнік" са Светлагорска. Будзем спадзявацца, што наша каманда зможа добра настроіцца на гульню. Сапернік у іх сур'ёзны. Нагадаем, што ў ліпені мінулага года менавіта светлагорцы спынілі слонімскі "Камунальнік" у 1/16 фінала Кубка Беларусі. Тады ў Светлагорску асноўны час гульні, якая, дарэчы, адбывалася пад праліўным дажджом, закончыўся ўнічыю – 0:0, а па пенальці перамаглі гаспадары 4:3. Цяпер у слонімцаў ёсць выдатная магчымасць узяць рэванш.

**Сяргей ЁРШ**
**Мікалай СУПРУН (фота)**



*Слонимский "Коммунальник" образца 1999 года. Первый ряд (слева направо): В. Дегиль, Е. Романов, П. Владимирский, О. Савицкий, А. Погоцкий, Н. Остапчик, Е. Еговцов, Дм. Оначенко; второй ряд: Ю. И. Данилевич(тренер), С. А. Пашкевич(администратор), И. Киркиж, А. И. Шубенок(главный тренер), И. В. Трофимчик(врач), С. Бекиш, В. Гайдецкий; третий ряд: А. Баль, Н. Дым, Е. Савонь, Г. Татарашвили, М. Ясинский, С. Куприков, А. Селиванов, А. Дегиль.*
*Официальным спонсором команды в 1999 г. является ООО "Телкон".*

**Астатнія вынікі матчаў 1-га тура:**
ЗЛіН (Гомель) – ФК Орша – 2:2
Палессе – Ведрыч-97 (Рэчыца) – 0:0
Вейна-Днепр – ФК Бяроза – 0:1
Віцьбіч-Дынама-Энерга (Віцебск) – Пінск-900 – 1:3
Граніт (Мікашэвічы) – Зорка ВА-БГУ (Мн) – 3:1
ФК Рагачоў – Нёман (Масты) – 2:0
Камунальнік (Св) – Дынама-Юні (Мн) – 2:2

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА
пасля 1-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Камунальнік (Сл.) | 1 | 1 | 0 | 0 | 3:1 | 3 |
| 2. Пінск-900 | 1 | 1 | 0 | 0 | 3:1 | 3 |
| 3. Граніт | 1 | 1 | 0 | 0 | 3:1 | 3 |
| 4. ФК Рагачоў | 1 | 1 | 0 | 0 | 2:0 | 3 |
| 5. ФК Бяроза | 1 | 1 | 0 | 0 | 1:0 | 3 |
| 6. ФК Орша | 1 | 0 | 1 | 0 | 2:2 | 3 |
| 7. ЗЛіН | 1 | 0 | 1 | 0 | 2:2 | 1 |
| 8. Камунальнік (Св.) | 1 | 0 | 1 | 0 | 2:2 | 1 |
| 9. Дынама-Юні | 1 | 0 | 1 | 0 | 2:2 | 1 |
| 10. Палессе | 1 | 0 | 1 | 0 | 0:0 | 1 |
| 11. Ведрыч-97 | 1 | 0 | 1 | 0 | 0:0 | 1 |
| 12. Вейна-Днепр | 1 | 0 | 0 | 1 | 0:1 | 0 |
| 13. Зорка ВА-БГУ | 1 | 0 | 0 | 1 | 1:3 | 0 |
| 14. Віцьбіч-Дынама-Энерга | 1 | 0 | 0 | 1 | 1:3 | 0 |
| 15. Тарпеда | 1 | 0 | 0 | 1 | 1:3 | 0 |
| 16. Нёман | 1 | 0 | 0 | 1 | 0:2 | 0 |

сезон-99 ● 1-я ліга ● сезон-99 ● 1-я ліга

**НАВІНЫ**

### Радословная за 12 миллионов

**Любой гражданин Беларуси может заказать в отечественных архивах исследование своей родословной.**

Государственный архив является своеобразным семейным архивом людей, чьи предки издавна проживают в Беларуси. Там накоплена огромная база документов генеалогического характера, среди которых – метрические книги, ревизские сказки, материалы переписей населения. Эти документальные данные, в основном находящиеся в национальных исторических архивах Минска и Гродно, позволяют проследить родословную любого жителя страны примерно до десятого колена. Стоимость этой услуги, по его словам, сравнительно невелика – 12 миллионов рублей для граждан Беларуси и 360 долларов США – для иностранных граждан.

**БелаПАН**

### "Камерата" выступіць у Беластоку

**У мінулую нядзелю на сцэне Дома афіцэраў адбыўся занальны тур рэспубліканскага конкурсу песні, прысвечаны 180-годдзю з дня нараджэння польскага кампазітара Станіслава Манюшкі.**

Аўтарскія песні кампазітара гучалі ў выкананні хора з вёскі Путрышкі Гродзенскага раёна, хора дзяўчынак Слонімскага касцёла Св. Марыі і хора Слонімскай дзіцячай музычнай школы "Камерата".

Права выступіць у фінале конкурсу, які адбудзецца 23 красавіка ў Беластоку, заваяваў хор "Камерата" пад кіраўніцтвам Наталлі Кукліцкай.

### Выстава Сяргея Смірнова

**Днямі ў СШ №5 адкрылася выстава твораў юнага мастака, вучня 7Б класа Сяргея Смірнова, якая цалкам складаецца з нацюрмортаў.**

Настаўнік Сяргея – кіраўнік студыі выяўленчага мастацтва пры Цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці – мастак Яўген Іваноў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Меньшинства вышли на улицу

**Под лозунгом «Права лесбиянок и геев — это тоже права человека!» 19 апреля впервые в истории Беларуси в Минске прошла публичная акция представителей сексуальных меньшинств. В пикете, организованном Белорусской лигой свободы сексуальных меньшинств «Лямбда» (БЛЛ), приняли участие около 20 геев, лесбиянок и трансвеститов.**

По словам лидера БЛЛ Эдварда Тарлецкого, главной целью акции являлся выражение протеста против действий Министерства юстиции, которое более полугода под различными предлогами не регистрирует возглавляемую им организацию. Кроме того, пикетчики протестовали против высказываний православных священнослужителей, считающих геев и лесбиянок преступниками и извращенцами, которых нужно казнить на электрическом стуле.

«В Беларуси очень сильны гомофобные настроения. Население находится в плену стереотипов, созданных многолетней пропагандой. За нетрадиционную сексуальную ориентацию только в прошлом году в стране были убиты около двух десятков геев», – заявил Э.Тарлецкий.

По информации Э.Тарлецкого, в настоящее время членами БЛЛ являются около 80 человек. Она принята в Международную ассоциацию геев и лесбиянок, а также в международную организацию «Врачи против СПИДа».

**БелаПАН**

**ЗАРИСОВКА С НАТУРЫ**

# ДУШЕВНЫЕ ЛЮДИ

Еду я как-то в городском автобусе – книгу читаю. И вдруг раздается вопль:

– Эй, парень! Уступи место!

Думаю, кому это кричат? Обернулся, вижу, возле меня мужик покачивается. Физиономия помятая. Рубашка из брюк вылезла. А в глазах – дым. Видать, крепко поддал. Я отвернулся и снова уткнулся в книгу.

– Вас, между прочим, просят, – обращаясь ко мне, уточнила дама в синем, сидящая возле меня.

– С какой стати я буду уступать место? – удивился я.

– Человек на ногах не держится, – объяснила тетка с кошелкой. – Упадет ненароком. Кто отвечать будет?

– А мне что! Пусть не пьет! – огрызнулся я.

– А я... на свои.. пью, – промычал пьяный.

Тут шофер притормозил автобус, и детину понесло вперед так, что – вот-вот он протаранит кабину водителя.

– Убьется! – взвизгнула снова та же тетка с кошелкой.

– Не упьюсь! – возразил пьяный и сел ей на колени.

Тетка от страха потеряла дар речи.

– Смотрите, что он вытворяет! – возмутилась крашенная дама, обращаясь с укором ко мне.

– Давайте его из автобуса выгоним! – предложил я.

– Тебя первого, – вмешался гражданин в габардиновом макинтоше образца пятой пятилетки. – Уступил бы место и дело с концом.

Я отшутился:

– Его место под забором, а не в автобусе.

– Ишь, какой принципиальный! Книжечки в автобусе читает. Умнее всех хочет быть! Библиотека ему тут...

– Встанешь ты трам-тарарам, – ругнулся пьяный, поднимаясь с чужих колен. – Все ... тебя... просят.

– Довели человека – выражаться стал, – горько произнесла тетка с кошелкой.

– С пьяным лучше не связываться, – поддакнула дама в синем.

– Он еще и заедет – какой с него спрос? – резюмировал гражданин в макинтоше.

– И заеду, – обрадовался поддержке детина. – Хочешь, я из тебя... люлю сделаю? Хочешь?

– Подумать только, что мы из-за вас вынуждены терпеть! – возмутилась дама в синем и отвернулась от меня.

– Ну чего вам не постоять. Молодой, – сказал гражданин в макинтоше. – А книжку дома дочитаете.

– Кончай базарить! – поддержали его еще несколько голосов.

Надоело выслушивать, уступил место алкашу. Пьяный повалился на сиденье и положил голову на плечо даме в синем. Она попробултыхалась, пытаясь скинуть его с плеча, но мужик пригрозил:

– Ты! Тихо! Не дергайся!

И засопел во сне.

– Вот видите, как хорошо! – обрадовалась тетка с кошелкой. – Обошлось без скандала...

**Геннадий ПАШКО**




**УДАКЛАДНЕННЕ**

У № 16 "Газеты Слонімскай" ад 15-21 красавіка 1999 года ў заметцы "Слонім ей падаўся музеем XIX стагоддзя" па тэхнічных прычынах была дапушчана недакладнасць. Наступны сказ трэба чытаць у такім кантэксце: "Была яна здзіўлена і тым, калі даведалася, што ўвесь гадавы бюджэт складае ўсяго каля чатырох мільёнаў васемсот дваццаці трох тысяч даляраў".